ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 30 10 жніўня 1995 г.
(2432) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## "ГАБЕЛЕН ВЕКУ"



**У Дзень незалежнасці Беларусі, 27 ліпеня, народны мастак Аляксандр Кішчанка прадэманстраваў шырокай грамадскасці свой "Габелен веку". Твор уражвае памерамі: 19 на 14 метраў -- вышынёй з шасціпавярховы дом. Тры гады працавалі ткачыхі Барысаўскай фабрыкі прыкладнога мастацтва над творам, які не мае аналагаў і дастойны быць занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса. На габелене шматфігурныя кампазіцыі, аб'яднаныя думкай аб тым, што чалавецтва перадольвае найцяжэйшае ў сваёй гісторыі XX стагоддзе. Мастак паказвае людзей, якія жывуць ці жылі ў гэтым стагоддзі.**

**У "Габелена веку" з самага пачатку складаны лёс: на яго быў зроблены замах, злачынца адрэзаў вялікі кавалак палатна і работніцам давялося пачынаць працу спачатку. Цяпер ніхто не ведае, куды яго падзець -- у рэспубліцы няма залы, дзе можна было б экспанаваць габелен.**

**Гэтым унікальным творам зацікавіліся за мяжой. Ходзяць чуткі, што прапаноўваюць за яго вялікія грошы, але мастак Аляксандр Кішчанка перакананы, што габелен павінен застацца ў Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: "Габелен веку".**
**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## "У НАС ЁСЦЬ МНОГА МІТУСНІ І НЯМА СІСТЭМЫ..."

*Стварэнне незалежнай Беларусі -- сапраўды гістарычная падзея. Яе хто шчыра запісвае ў заслугу, а хто і адкрыта інкрымінуе нашаму сённяшняму субяседніку. А таму можна з поўнай падставай сказаць: у нас у гасцях гістарычная асоба, вучоны і палітык -- Станіслаў ШУШКЕВІЧ, чалавек, чый подпіс стаіць і пад Белавежскімі пагадненнямі, і пад Дэкларацыяй аб незалежнасці Беларусі.*

**-- Станіслаў Станіслававіч, мне хацелася б ведаць ваша меркаванне па некалькіх ключавых момантах сённяшняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Гэта, па-першае, ваша ацэнка стану развіцця палітычных і эканамічных рэформ у краіне, у тым ліку пачуць, якая будучыня беларускага нацыянальнага адраджэння. І, па-другое, можа вы, як чалавек, які непасрэдна "варыцца" ў нашым беларускім палітычным катле, маглі б патлумачыць, што ж усё-такі адбываецца сёння ў стане беларускіх дэмакратаў: здаецца, пасля знакамітага майскага рэферэндуму і парламенцкіх выбараў там пачалася нейкая "перадыслакацыя" сіл.**

-- Давайце па парадку.

Ведаеце, я, на шчасце, маю нармальную адукацыю -- фізіка-матэматычную. А фізіка, як вядома, навука эксперыментальная, і таму для мяне галоўнае не папулісцкія размовы, якіх у нас зараз хапае. Калі ў такіх прамоўцаў даходзіць да якіх-небудзь ацэнак, то тут сорамна і глядзець і слухаць. Навучаныя папярэднім савецкім вопытам, яны заўсёды знаходзілі і знаходзяць такія паказчыкі, якія будуць пацвярджаць і наша "паляпшэнне", і "рост", і г. д. Амаль ці не росквіт. Але ж у краіне працягваецца спад эканомікі, стаўка робіцца на дзяржаўны сектар, на тое, што нібыта можна паставіць разумных кіраўнікоў, і тыя выправяць сітуацыю. Гэта чыстае глупства, эканамічныя законы не залежаць ад прыстойнасці кіраўнікоў. У выніку за год -- спад валавога нацыянальнага прадукта больш чым на 12 працэнтаў, спад рэнтабельнасці дзяржаўнай вытворчасці больш чым на 5 працэнтаў -- з 13 да 7,5. Мы перажываем цяжкі крызіс, і выхад з яго пакуль не азначаны. Нейкае палітычнае рэфармаванне, дарэчы, я лічу, бязглуздае, адбылося, але эканамічнага рэфармавання няма. І ўсе размовы пра рынак, калі не ствараюцца суб'екты рынку, калі няма санацыі банкрутаў, калі няма прыватызацыі, -- пустыя. Новая сістэма не ствараецца, а старая развальваецца. І ў гэты час усе ўладныя высілкі скіраваны на тое, каб як найлепш, прадставіцца Міжнароднаму валютнаму фонду, атрымаць ад яго крэдыт, за які потым можна будзе купіць расійскую нафту.

Хаця адна станоўчая змена ў нас усё ж такі ёсць, і мне вельмі хацелася б, каб яна ўтрымалася. Гэта, у пэўным сэнсе, утаймаванне, я б не сказаў інфляцыі, хутчэй, спаду кошту беларускага рубля ў адносінах да долара ЗША. Тут, мне здаецца, спрацавалі вытрымка, кваліфікацыя і розум старшыні Нацыянальнага банка Беларусі Станіслава Багданкевіча. Хаця, баюся, утрымаць дасягнутае будзе цяжка: звычайна ў летнія месяцы інфляцыя змяншаецца, бо людзі, груба кажучы, пераходзяць на "паднож-ны корм", купляюць меней, бо шмат чаго маюць з уласных садоў і агародаў. Калі ж пройдзе лета, да таго ж значна ўзрасце кошт камунальных паслуг, усё можа зноў ускладніцца, бо, на жаль, тэндэнцыя стабілізацыі рубля -- нетрывалая.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Спадзяемся, што цяпер нішто не перашкодзіць вам падпісацца на газету "Голас Радзімы" на IV квартал 1995 года. Хочацца верыць, што і тыя, хто вагаўся і не выпісаў "Голас Радзімы" на III квартал бягучага года, не маючы ўпэўненасці, што газета будзе выходзіць, зробяць гэты крок.**

**Лепш мець гарантаваную падпіску на "Голас Радзімы", чым шукаць яго па кіёсках.**
**Наш індэкс -- 63854.**
**Цана падпіскі на квартал -- 9 600 руб.**
**Нагадваем: падпіска доўжыцца да 31 жніўня.**

# "У НАС ЁСЦЬ МНОГА МІТУСНІ І НЯМА СІСТЭМЫ..."



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Але і тут толькі адзін бок праблемы -- я маю на ўвазе спыненне падзення рубля. Калі дбаць толькі пра гэта, то можна цалкам загубіць экспарт, што ў значнай ступені сёння і адбываецца. Нашы экспартныя прадпрыемствы ўжо прызвычаіліся працаваць ва ўмовах вялікай інфляцыі: ім было зручна атрымліваць долары і мяняць іх на рублі. І калі ўсё спынілася, некаторыя буйныя дзяржаўныя фабрыкі і заводы (дарэчы, прадпрыемствы добрага кшталту) пачалі страчваць свае пазіцыі, што вельмі небяспечна. І таму я сказаў бы так: у нас ёсць многа мітусні і няма сістэмы. Няма і сапраўднай стабільнасці, бо стабільнасць у галечы -- гэта не стабільнасць.

**-- А ці не здаецца вам, што наш народ урэшце атрымаў тое, што хацеў -- прэзідэнта, законы, мову, сімволіку... Можа, сапраўды, "у Багдадзе ўсё спакойна"?**

-- Не ведаю, хто дасягнуў таго, чаго хацеў, з кім вы кантактуеце. Я ведаю супрацоўнікаў вышэйшай школы, адукацыі, медыцыны. Сёння яны саромеюцца свайго стану, яны фактычна не бачаць ніякіх перспектыў.

Стабільнасць -- гэта ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Скажыце мне, калі ласка, вы ўпэўнены ў заўтрашнім дні? І знайдзіце такога чалавека ў Беларусі, які будзе ўпэўнены ў заўтрашнім дні! Беларусь не жыве, а ўвесь час выжывае. І вось на гэта настройваюцца людзі -- што магло б быць яшчэ горш. Але, мне здаецца, у эканоміцы ўжо не можа быць горш, чым ёсць. Ні адна дзяржава ў посткамуністычным свеце, якая не стала на шлях рэфармавання эканомікі, не стварыла ніводнага рабочага месца. У старым дзяржаўным сектары мы толькі страчваем іх. А новаму няма ходу. І таму якая можа быць перспектыва? Толькі перспектыва абвалу.

**-- Але, мне здаецца, увесь парадокс у тым, што пры наяўнасці выразнай карціны крызісу глыбіню яго разумее нязначная частка грамадства, настолькі нязначная, што ад яе практычна нічога і не залежыць. Астатнія ўсё ж такі прытрымліваюцца славутага савецкага тэзіса -- "каб толькі не было вайны".**

-- Я хачу сказаць, што тое глупства, якое цяпер робіцца ў палітыцы, яно ўрэшце і набліжае вайну. Былі ў нас цвярозыя захады, калі мы абмежаваліся ў вайсковым сэнсе ад Расіі і астатніх краін СНД, і пакуль нашы хлопцы не служаць ні ў Таджыкістане, ні ў Чэчні, ні на Далёкім Усходзе. Гэта дасягненне папярэдняга кіраўніцтва ўвесь час разбураецца цяперашнім. Спадзявацца, што ў Расіі з яе імперскімі падыходамі калі-небудзь скончыцца вайна, нельга. Беларусь у свой час стала на нармальную пазіцыю -- імкнення да нейтральнасці. Цяпер жа ўсё фактычна скасоўваецца.

**-- Тым не менш, шмат хто і гэтага бачыць не хоча. Часам складваецца ўражанне, што некаторым нашым грамадзянам даражэйшы чырвоны сцяг з зоркай і Расія, чым нават жыцці ўласных дзяцей, не гаворачы ўжо пра чужых. Гэта ж ненармальна!**

-- Адказ тут просты. Наша прапаганда доўгія гады ўбівала людзям у галовы гэты вар'яцкі інтэрнацыяналізм. Далей. За апошнія гады мы шмат страцілі ў прамысловасці, і, у першую чаргу, у ваеннай. Жыццё пагоршылася яшчэ ў большай ступені, чым нават і гэтыя страты. Пры сацыялізме ж у чалавека было дрэннае, але гарантаванае існаванне (вяртаемся ўсё да таго ж пачуцця стабільнасці). Зразумела, і тады нельга было параўноўваць савецкія і заходнія тавары масавага ўжытку, аўтамабілі, тэхніку, у нас быў проста пячорны лад жыцця. Але ён многіх задавальняў, бо іншага большасць людзей не бачыла. Цяпер жа многія бачаць і іншае. Але прапаганда знайшла такое выйсце: кажуць, усё гэта для тых, хто крадзе, а астатнія пазбавяцца ўсяго. І запалоханы чалавек вымушаны падтрымліваць дзяржаву ва ўсім, бо ён не бачыць, адкуль яшчэ, скажам, зможа атрымліваць сваю пенсію. Таму палітычныя захады павінны рабіцца паслядоўна, крок за крокам. А ў нас усе, хто раней займаўся прапагандай казарменнага сацыялізму, усе гэтыя палітрукі, якія акрамя пяхотнага статута нічога не ведалі, усе яны захавалі свае пасады. Адсюль і эксплуатацыя ранейшых пастулатаў, такіх, як "вялікі савецкі народ", "класавы падыход" і г. д.

На што ж тады можна спадзявацца? Спадзявацца можна толькі на моладзь. Пры той інфармацыйнай свабодзе, якая ў параўнанні з мінулым усё ж з'явілася, увесці ў зман цяперашніх маладых значна цяжэй, чым калісьці іхніх бацькоў.

**-- Ці не стане гэтае спадзяванне на моладзь чарговым міфам, якім дэмакраты падманваюць сябе і сваіх прыхільнікаў?**

-- Міфам гэта будзе, калі сядзець і проста чакаць, што ўсё неяк само па сабе адбудзецца і нармалізуецца. Безумоўна, трэба прымаць неабходныя захады, каб погляды моладзі фармаваліся менавіта ў накірунку агульначалавечага развіцця і прагрэсу. Увогуле маладыя павінны станавіцца на ногі пад уплывам сям'і, а не нейкіх грамадскіх і палітычных арганізацый, што вярбуюць пад свае штандары і нярэдка ў шэрагі прыхільнікаў вось такой, як сёння, грамадскай і палітычнай мітусні. У нас хапае падобных вярбоўшчыкаў тыпу "Славянскага сабора", розных "паджыгыноўшчыкаў". Яны забываюцца ці проста не хочуць ведаць, што, напрыклад, калі ў Беларусі быў уласны універсітэт, тыя, хто сёння нас хоча вучыць і нам дыктаваць, яшчэ 150 гадоў павінны былі чакаць свайго. Я вельмі паважаю вялікую рускую культуру. Але яе ўзаемадзеянне з нашай -- гэта не тое, што напрыклад, ажыццяўляла Брытанія ў адносінах да сваіх калоній, дзе метраполія знаходзілася на значна вышэйшым культурным узроўні. Калі заваёўвалася Аўстралія, то, відавочна, туды трапляла і значна вышэйшая культура, тэхніка, тэхналогія. Што ж атрымліваецца сёння ў нас? Праімперскім расійскім колам Беларусь патрэбна як зручны калідор, праз які ў Расію будзе ісці перадавая заходняя тэхналогія. Таму спадзявацца мы можам толькі на сябе і на тое, каб шырокая інфармацыйная прастора дазволіла нам самім знаходзіць і ўсталёўваць карысныя менавіта для Беларусі кантакты. І моладзь тут павінна сказаць сваё слова.

**-- А ці не скажа зноў сваё слова славуты беларускі менталітэт, які, здаецца, ужо сядзіць у генах?**

-- Я не веру ў такія гены, хаця пэўны генетычны дэфект нацыі ў наяўнасці. Але ён -- вынік свядомага генацыду беларусаў і ў царскія, і ў бальшавіцкія часы. Дарэчы, нешта падобнае фактычна адбываецца і сёння. Як толькі Беларусь захацела стаць на свае ногі з мовай, тут жа былі выпушчаны ў бой цемрашалы, падманутыя таннай каўбасой. Між іншым, што тычыцца таннай каўбасы, -- гэта таксама міф: не хапала яе ў савецкія часы на ўсіх, тым больш таннай.

**-- Станіслаў Станіслававіч, ці лічыце вы прыняцце на рэферэндуме дзяржаўнага статуса рускай мовы катастрафічным для далейшага лёсу беларускай мовы?**

-- Так, я лічу, што гэта катастрофа. Рускай мове ніхто і нішто не перашкаджала. Усё зроблена, каб спрыяць рускамоўнаму асяроддзю і пахаваць беларускую мову. Урэшце, гэта чарговы падман маласвядомых, непатрыятычна арыентаваных людзей. Дарэчы, рускія людзі высокай культуры -- не прыхільнікі такога падыходу.

**-- Зараз на дзяржаўным узроўні пачаўся відавочны адкат ад беларусізацыі адукацыі, выхавання, культуры, навукі, першыя праявы якой мы ўжо назіралі апошнім часам. Інтэлігенцыя ад культуры, мастацтва ўвогуле яшчэ трымаецца. Ці надоўга яе хопіць?**

-- Думаю, наша інтэлігенцыя пратрымаецца з беларускай мовай, як бы яе ні выкручвалі. Але справа ў іншым: інтэлігенцыі ў нас вельмі мала. Сапраўды, наша нацыя моцна пацярпела, і ў першую чаргу свядомая беларуская інтэлігенцыя. Глядзіце, каго знішчалі ў сталінскія часы і каму забаранялі гаварыць па-беларуску пры царызме? Усё гэта тычылася інтэлігенцыі. Але свет ведае прыклады, калі нацыі выходзілі з такога стану. Тут і Нарвегія, і Чэхія, і Паўднёвая Карэя. Сёлета я выпадкова апынуўся на Купалле ў вялікім студэнцкім асяроддзі. І студэнты мне сказалі: калі раней мы не думалі пра гэта ўвогуле, то цяпер для нас самы святы сцяг -- бел-чырвона-белы і самая святая мова -- беларуская. І так кажуць не філолагі, не філосафы, для якіх падобныя погляды -- не дзіва. Так кажуць студэнты тэхнічных навучальных устаноў.

**-- Станіслаў Станіслававіч, але пяройдзем да другой часткі нашай размовы. Што сёння адбываецца ў стане беларускай дэмакратыі?**

-- Ведаеце, а нічога не адбываецца.

**-- Наогул?**

-- Наогул. Таму што шырокага дэмакратычнага руху, на жаль, пасля 90-га года так і не ўдалося стварыць. Спачатку на такую ролю мог прэтэндаваць Беларускі народны фронт. Але ён занадта быў перакананы, што варта толькі расказаць людзям пра беларускасць, беларускую гісторыю, і ўсе пойдуць за ім. Гэтага не адбылося. А пасля там ужо пачалі ўзнікаць асабістыя амбіцыі, прадстаўнікі фронту кінуліся зацята крытыкаваць усіх астатніх, хто быў не з імі. Што тычыцца мяне, то я не ведаю ніводнага віднага франтаўскага дзеяча, які б не крытыкаваў маю пазіцыю. Але, здаецца, сёння і яны зразумелі, што не ўлічваць тое, што рэальна адбываецца ў грамадстве, нельга.

Прыярытэт сцвярджэння сваіх уласных пазіцый характэрны практычна для ўсіх дзеячаў ад беларускай дэмакратыі. А некаторыя партыі -- увогуле штучныя ўтварэнні, якія ніхто і не заўважае.

Нядаўна па ініцыятыве фронту сабраліся ўсе, хто далучае сябе да дэмакратаў. І што? Сабраліся, паплакаліся, пагаварылі наконт таго, як добра было б мець сваю інфармацыйную прастору, напрыклад, газету. Але сродкаў ні ў кога няма, дык адкуль возьмецца тая газета? Я сказаў на гэтай нарадзе так: альбо мы прызнаем, што ёсць патрэба стварыць больш шырокі дэмакратычны рух, чым БНФ, і БНФ увойдзе ў яго як шэраговы ўдзельнік, альбо ўсё застанецца па-ранейшаму. Аб'ядноўвацца ж без фронту няма сэнсу, бо менавіта ён мае важкасць, якой і дагэтуль не абзавяліся астатнія партыі і аб'яднанні.

Фронт з маёй прапановай не пагадзіўся. І зрухаў, здаецца, не будзе. Яшчэ і таму, што наша мажарытарная выбарчая сістэма не дае стымулу для такога шырокага дэмакратычнага аб'яднання. Калі справа тычыцца выбараў, усе схіляюцца да індывідуальнага падыходу.

**-- Такім чынам, асабіста вы палітычную стаўку сёння ні на кога не сталі б рабіць?**

-- Яшчэ раз падкрэсліваю: я не бачу сапраўднага адрознення паміж і БНФ, і АДПБ, і БСДГ, і некаторых іншых. Я не бачу ў іх праграмах адрозненняў на першым этапе рэфармавання эканомікі. Здаецца, усё ёсць, каб яны аб'ядналіся. Чаго няма? Усе хочуць быць лідэрамі замест аб'яднання пад агульную ідэю.

**-- Але, мабыць, існуе і ў вас асабістая схільнасць да пазіцый якой-небудзь партыі ці грамадскага аб'яднання? Ці вы тая самая "кошка, якая гуляе сама па сабе"?**

-- У мяне вялікая схільнасць да класічнай сацыял-дэмакратыі.

Так, было шмат прапаноў аб супрацоўніцтве, некаторыя нават вельмі заманлівыя, але я разумеў заўсёды адно: калі я прыйду ў нейкую палітычную структуру, там будзе раскол. А мне гэтага не трэба. Таму я не пайшоў на больш цесныя кантакты, напрыклад, з Грамадой, многіх дзеячаў якой шчыра паважаю.

**-- Тады як вы мяркуеце застацца ў палітыцы?**

-- Прынамсі, буду ўдзельнічаць у выбарах...

Я перакананы, што будучыня Беларусі -- дазволіць людзям сябе паказаць і працаваць на сябе. А дзяржава павінна збіраць падаткі, каб захоўваць і ствараць умовы існавання сваіх грамадзян. Вось ідэя любой дэмакратычнай дзяржавы. Нам жа, у Беларусі, здаецца, для разумення гэтага спатрэбяцца яшчэ гады і гады.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**Беларускі шлях у рынак!..** **Фота С. ГРЫЦА.**

## 27 ЛІПЕНЯ — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ





# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ: АФІЦЫЙНА І АПАЗІЦЫЙНА



**Вось і дажылі беларусы да пятых угодкаў Трэцяй Рэспублікі. Пра Першую -- БНР, на жаль, і дагэтуль мала хто ведае, але шануе памяць аб ёй. Другая -- БССР яшчэ доўга будзе абуджаць нашу памяць: у каго энтузіязмам стварэння "новага свету" і верай у роўнасць і справядлівасць, у каго — Беламорканалам, стогнам раскулачанай вёскі, ідэалагічным ціскам. Да Трэцяй мы ўсё яшчэ неяк прымерваемся -- ці гэта ява ці навеяны БНФам сон. Нягледзячы на пастаянную жальбу, што суверэнітэт дорага каштуе, афіцыйная Беларусь адзначыла Дзень незалежнасці на ўрадавым узроўні. Адбыўся ўрачысты сход у канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі, на якім прысутнічаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка, Старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб, кіраўнікі замежных дыпламатычных прадстаўніцтваў. На вечары выступіў прэм'ер-міністр дзяржавы М. Чыгір. І як ні дзіўна -- на беларускай мове. Былі афіцыйныя цырымоніі ўскладання вянкоў на плошчы Перамогі ў Мінску, у якой прынялі ўдзел вышэйшыя афіцыйныя асобы на чале з Прэзідэнтам, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.**

**Але не ўсе святкавалі Дзень незалежнасці (а многія не святкавалі, бо не ведалі, што такая дата ў нашым календары ёсць) пад знакам новай дзяржаўнай сімволікі. Нягледзячы на тое, што шэсце на праспекце імя Скарыны ў Дзень незалежнасці было забаронена гарадскімі ўладамі, яно адбылося пад бел-чырвона-белымі сцягамі на чале з лідэрамі БНФ. Кардоны міліцыі, сцягнутыя да плошчы Незалежнасці, не змаглі стрымаць людзей. Рэпрэсіі супраць першых смельчакоў, якія разгарнулі бел-чырвона-белыя сцягі, выклікалі адваротную рэакцыю: узнялося мора сцягоў. Асабліва многа іх было ў руках маладых. І калі на плошчы Незалежнасці сабралася ўсяго некалькі соцень чалавек, то ў шэсці ўжо прынялі ўдзел тысячы. Яны дайшлі да помніка Янку Купалу, дзе і адбыўся ўрачысты канцэрт.**

**Дарэчы, са святам незалежнасці беларусаў шчыра павіншаваў Прэзідэнт Польшчы Лех Валенса. Пра віншаванні ад Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына згадкі ў прэсе не было.**



**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: ускладанне вянкоў на плошчы Перамогі; шэсце і святочны канцэрт пад сцягамі апазіцыі; выступае Ніл ГІЛЕВІЧ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ і Віктара СТАВЕРА.**

*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ – БНР: ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАРАЛЕЛІ

27 ліпеня 1990 года была прынята Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. Аб'ектыўным ходам гістарычнага развіцця беларусы атрымалі шанс стварыць незалежную дзяржаву. Разам з тым, каб абвешчаныя дэкларацыі сталі рэальнасцю, неабходна штодзённая напружаная праца. За прайшоўшыя пасля прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце пяць гадоў было зроблена нямала на шляху пабудовы беларускай дзяржаўнасці.

Пасля правалу жнівеньскага путчу ў Маскве ў 1991 годзе Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце быў нададзены статус канстытуцыйнага закона. Разам з прынятай у той жа час пастановай "Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай незалежнасці Беларускай ССР" ствараліся прававыя юрыдычныя асновы будуемай незалежнай беларускай дзяржавы.

У верасні 1991 года Вярхоўны Савет прымае рашэнне аб замене назвы дзяржавы. Замест ранейшай назвы БССР наша дзяржава атрымала назву Рэспубліка Беларусь. У якасці дзяржаўнага быў зацверджаны бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". А ў снежні 1991 года Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч і Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч сумесна з кіраўнікамі Расіі і Украіны прынялі рашэнне аб дэнансацыі дагавора 1922 года аб утварэнні СССР.

Прамысловыя прадпрыемствы, установы, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, былі перададзены ў дзяржаўную ўласнасць Рэспублікі Беларусь. Ствараецца ўласнае Міністэрства ўнутраных спраў, Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь, уласныя ўзброеныя сілы. У снежні 1992 года была прынята ваенная прысяга асабовым складам Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Была прынята ў сакавіку 1994 года Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы, а ў ліпені 1994 года абраны першы Прэзідэнт А. Лукашэнка.

Дасягнула Беларусь пэўных поспехаў як суб'ект міжнародных адносін. Ужо да ліпеня 1994 года Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву прызналі 123 краіны свету. Беларусь стала паўнапраўным удзельнікам нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (НБСЕ).

Разам з тым працэс будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці суправаджаецца глыбокім эканамічным крызісам, выкліканым як аб'ектыўнымі, так і суб'ектыўнымі прычынамі. Гэта і разрыў старых эканамічных сувязяў і структуры эканомікі, звязаныя з распадам СССР, і нежаданне і няздольнасць старога кіраўніцтва займацца перабудовай эканомікі. Разам з тым прадстаўнікамі былой партнаменклатуры да свядомасці народа пачала даводзіцца думка, што ў эканамічным крызісе вінавата незалежнасць.

Аналізуючы сітуацыю, якая склалася сёння, можна правесці пэўную гістарычную паралель з сітуацыяй, у якой даводзілася дзейнічаць стваральнікам Беларускай Народнай Рэспублікі.

У той невялікі прамежак часу, у неспрыяльных умовах нямецкай акупацыі, прадстаўнікі беларускага нацыянальнага руху дабіліся пэўных поспехаў. У красавіку 1918 года, праз месяц пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, адзін з сяброў Рады БНР Алесь Гарун пісаў: "Беларусь павінна сабраць і арганізаваць перш у стройную сістэму нацыянальна-дзяржаўнай еднасці ўсе свядомыя і творчыя сілы. Мы яшчэ знаходзімся ў працэсе збірання". Сёння, калі кіраўніцтвам рэспублікі пры падтрымцы пракамуністычных сіл праводзіцца курс на паступовую ліквідацыю незалежнасці Беларусі і далучэнне яе да Расійскай дзяржавы, праблема аб'яднання ўсіх сіл, што выступаюць за захаванне дзяржаўнасці Беларусі, паўстае асабліва востра.

Адзін са стваральнікаў БНР, Аляксандр Цвікевіч, аналізуючы прычыны, якія перашкаджаюць будаўніцтву дзяржаўнасці, адзначаў: "У беларусаў, у выніку асабліва неспрыяльных умоў, не захавалася нават самага элементарнага пачуцця грамадзянскай адказнасці".

Як сведчаць вынікі нядаўна прайшоўшых выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і рэферэндума, пачуццё грамадзянскай адказнасці не толькі не павялічылася ў беларусаў з моманту абвяшчэння БНР, але магчыма, нават і зменшылася. Абыякавасць да ўсяго, што адбываецца, у тым ліку да свайго лёсу, відавочна, ужо стала адной з характэрных рысаў беларускага менталітэту. У палітычным жа жыцці, калі большасць народу фактычна з'яўляецца пасіўным назіральнікам, важныя, лёсавызначальныя рашэнні прымаюцца без яго ўдзелу ад яго імя. Вобразна кажучы, калі ты не займаешся палітыкай, то яна ўсё роўна зоймецца табою.

Вядома, спадзявацца, што людзі адразу актыўна будуць уключацца ў палітычнае жыццё, не выпадае. Большасць нашых грамадзян, як у часы стварэння БНР, так і сёння, як адзначаў Алесь Гарун, "мае самыя прымітыўныя гарызонты. Найбольш яго цікавіць надзённы кавалак хлеба..."

Таму ў сённяшніх умовах патрэбна паступовая, мэтанакіраваная работа па аб'яднанню вакол ідэі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі ўсіх дэмакратычных, патрыятычных сіл і пашырэнне сферы ўплыву гэтай ідэі. Як адзначаў Аляксандр Цвікевіч у 1921 годзе: "У змаганні за беларускую дзяржаўнасць, як і ва ўсякай барацьбе, трэба спадзявацца перш за ўсё на свае ўласныя сілы, на арганізаваныя сілы беларускага народу. Толькі беспасярэдняя воля народу, выражаная ў актыўным чыне, здольна стварыць дзяржаву і захаваць яе ў будучыні". "Будаваць вольную Беларусь, -- заклікаў вядомы беларускі дзеяч Антон Луцкевіч, -- павінны самі беларусы, -- і то беларусы нацыянальна свядомыя, беларусы, каторыя не на словах толькі, а на жывой справе, -- усім сваім жыццём, кожным сваім крокам умацоўваюць беларушчыну".

Як сведчаць вынікі адбыўшагася рэферэндума, такія беларусы ёсць. І іх колькасць, нягледзячы на розныя ідэі пра славянскую еднасць і размовы аб шкоднасці для беларускага народа незалежнага дзяржаўнага існавання, з кожным годам будзе павялічвацца. Пяць гадоў, прайшоўшыя з моманту прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, не прайшлі дарэмна.

**Валянцін МАЗЕЦ.**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




**Працяг.**
**Пачатак у № 29.**

Яго слухалі: Фэлік Маруда -- моцны і крыху сагнуты, з расплюшчаным сьпераду носам мужчына сталага ўзросту; Юлік Вар'ят -- малады перамытнік з надзвычай буйнай фантазіяй (адсюль -- вар'ят), і Салавей -- малы, шчуплы, заўсёды ўсьмешлівы хлопец; ён прыгожа сьпявае, бо валодае выдатным голасам.

Аблізваючы сасьмяглыя вусны, Ванька расказвае:

-- Баба, скажу вам, была як адлітая зь бетону! Нідзе не ўшчыкнеш. Дасі пстрычку па... -- як звон гудзіць! Пацярэ нагамі -- іскры лятуць! Э-лек-трыч-насьць!

-- Халера! -- кажа Фэлік Маруда.

Юлік Вар'ят з шырока расплюшчанымі вачыма круціць галавой.

Паблізу ад іх са зробленай у сене нары, як з-пад зямлі, вылазіць Болек Лорд. Вочы ў яго іранічна прыплюшчаныя.

-- Цела, скажу вам, хлопцы, нібы алябастар!.. -- Ванька прыцмоквае вуснамі і лашчыць далаңёй паветра.

Лорд, не вытрымаўшы, прагаварыў:

-- Цьфу, пся крэў: алябастар! Пяты парэпаныя! Гной паміж пальцамі! Калена як наждак! На палову вярсты сырам сьмярдзіць! А ён: а-ля-бас-тар! Цьфу, цьфу.

-- А табе што?

-- Анічога. Злавіў слухачоў, дык залівай.

Яны пачынаюць спрачацца паміж сабой і ўзаемна дацінаць адзін другога.

Я падняўся. Абуў боты і падышоў да іх.

-- Дзе Юзік? -- запытаўся я ў Салаўя.

-- На хутар пайшоў.

-- Візіт Бамбіне складае, -- дадаў Лорд.

-- Рабуючы цыцкі! -- уставіў Ванька Бальшавік.

-- Доўга ж есьці не нясуць! -- неспадзявана прагаварыў Фэлік Маруда.

-- Гэтаму заўсёды ў галаве шамка стаіць, -- кажа Лорд.

-- І мае ж дар да жратвы, -- кідае Шчур.

Мы запальваем папяросы і асьцярожна, каб не зацерушыць у сена, курым. Хутка астатнія перамытнікі выпаўзаюць з нораў. Пацягваючыся, пазяхаючы, далучаюцца да нас.

Не хапае толькі жыда Лёўкі і Юзіка.

Шчур, дастаўшы з кішэні карты, прапаноўвае згуляць у 66. Бульдог паслаў на сене сваю куртку подшыўкай наверх, і на ёй пачалі гуляць у карты. Да іх далучыўся Мамант і Ванька Бальшавік.

Побач зь імі з сур'ёзнай мінай Лорд пачаў апавядаць Юліку Вар'яту, як можна бяз стрэльбы ўпаляваць зайца.

-- Разумееш, купляеш пачак табакі і раніцай, пакуль заяц сьпіць, абыходзіш палеткі і на кожны камень кладзеш па каліву тытуня... Раніцой заяц прачнецца, пацягнецца, пачухае лапкай за вухам і, як сабачка, пабяжыць за патрэбай. Прыскочыць да каменя і адразу ж панюхае. Тытунь заляціць яму ў нос. Чыхне -- трэснецца лбом у камень, ападзе набок і ляжыць. А ты раніцой выходзіш і зьбіраеш іх у мяшок.

-- Баіш?

-- Баю? Галаву даю наадрэз, што не. А на мядзьведзя палююць інакш. Палююць толькі ўвосень, калі лісьце з дрэваў ападае. Тады бярэш вядро з клеем і ідзеш у лес, дзе жывуць мядзьведзі. Намазваеш клеем лісты, а сам хаваешся. Мядзьведзь ідзе: члап-члап! члап-члап! Да яго лап прыліпаюць лісты. Усё больш, больш, аж, нарэшце, столькі іх назьбірае, што ня можа зь месца варухнуцца. Тады выходзіш з-за кустоў, абвязваеш яго вяроўкай, на воз і дахаты!

Шчур, гуляючы ў карты, ня вытрымаў і адгукнуўся:

-- Яшчэ аднаго вар'ята маем!

-- Не вар'ята, а пана вар'ята! -- адказаў Лорд.

-- Такі пан на саломе сьпіць і зубамі блох ловіць!

Распачалі сварку. Заўважыў, што робяць гэта не са злосьцю, а для забавы. Апоўдні Трафіда прыйшоў у гумно. Быў відавочна на падпітку.

-- Ну, браткі, валіце да мяне!.. Зараз будзе шамка!

Усе пазлазілі з гары на ток.

-- Як там тавар? -- запытаўся Лорд у Юзіка.

-- Зараз прыйдуць "пераношчыцы". Лёўка ваўсю працуе. Бамбіна жратву вам шыкуе.

-- Не заціснуў яе там? -- пытаецца Бальшавік.

-- Патрэбна мне такая... абноска!

З надворку данесьліся крокі, і ў гумно, надзіва лёгкім крокам, увайшла рослая, налітая кабета гадоў 35. "Прыфранцілася". Па ўсім гумне пацягнуўся пах парфумаў. На нагах мела шаўковыя, пад колер цела, панчохі, кароткая сукенка моцна падкрэслівала буйныя формы.

-- Дабрыдзень, хлопчыкі! -- прагаварыла галасна, весела, паказваючы сваёй усьмешкай ладныя белыя зубы.

Усе прывіталіся. Ванька Бальшавік, падскочыўшы наперад, узяў у яе з рук два вялікія кашы. Паставіў іх на ток, а пасьля, жартуючы, паспрабаваў абхапіць Бамбіну. Жанчына ж так стукнула яму кулаком у грудзі, што ён заваліўся.

-- Гэтак яму! -- вымавіў Юзік.

-- Сьпёкся? -- запытаўся Шчур у Бальшавіка.

Сьмеючыся, Бамбіна прыглядалася да нас. Зірнула на мяне, а потым павярнулася да Трафіды.

-- Гэта новенькі?

-- Так... свой хлопец...

Кіўнула мне галавой. Праз хвіліну выйшла з гумна, залішне круцячы клубамі і пружынячы пры хадзьбе.

-- Гэта баба!.. Як матрац! -- з захапленьнем вымавіў Ванька.

-- Не баба, а кабыла! -- папраўіў яго Шчур.

Хлопцы апаражнялі кашы. Там была вялікая патэльня яечні. Саган упрэлай капусты зь мясам. Стос гарачых бліноў. Тры боханы хлеба і ладны кавалак бачка.

У куце гумна Трафіда выцягнуў з саломы тры пляшкі сьпірту і разьвёў яго вадой, якая стаяла ля дзьвярэй у вялікай дубовай дзежцы. Лорд накройваў сьцізорыкам вялікія лусты хлеба.

Пачалі піць гарэлку і есьці. Нібы машыны зьмяталі харч. Найбольш заўзята стараўся Фэлік Маруда. З сапеньнем, пляскаючы вуснамі і чамкаючы, ён зьнішчаў мяса. Аблізваў тлушч з пальцаў то з адной, то з другой рукі.

-- Бачыце, як запіхвае! -- абціраючы вусны, кажа Лорд. -- За вушамі пішчыць, а нос у клубок згінаецца! Да работы апошні, да жратвы ж -- першы!

-- Мае рацыю! -- адказвае Шчур. -- Няхай конь працуе! У таго чатыры нагі, доўгі хвост... а ў яго?

Перамытнікі скончылі есьці. Толькі Фэлік Маруда, не зьвяртаючы ні на кога ўвагі, дабіваў рэшткі стравы. Болек Лорд пачаў апавядаць:

-- Чуеце, хлопцы, я ведаў адну такую бабу, якая штодня зьядала на сьняданьне яечню з трыццаці яек.

-- Напэўна, была як наша Бамбіна, -- запальваючы папяросу, прабурчэў Бульдог.

-- ...Дык аднаго разу "яе" мужык вырашыў пажартаваць і да трыццаці яек, якія яна разьбіла, дабавіў яшчэ тры дзесяткі. Прыйшла баба, усмажыла яечню і давай есьці. Насілу справілася.

-- Халера, не лопнула! -- прагаварыў Салавей, круцячы галавой.

-- ...Умяла і сядзіць. Сапе, нібы паравоз. А тут падыходзіць суседка і пытаецца, чаму такая чырвоная! А яна адказвае так: "Ведаеш што, суседачка. Альбо я хворая, альбо захварэю -- з трыццаці яек яечню ледзь утаптала!"

Хлопцы сьмяюцца і, закурыўшы папяросы, пачынаюць апавядаць пра розныя вядомыя ім выпадкі абжорства. Падчас гэтай размовы дзьверы ў гумно адчыняюцца і зноў заходзіць Бамбіна, грацыёзна несучы поўны кош яблык і сьліў.

-- Бярыце, хлопцы! Закусіць вам прынесла!.. Але ж і надымілі! Глядзіце, каб мне гумно не спалілі!

-- Толькі на таку курым... Пільнуемся... -- супакоіў яе Юзік.

-- Ну-ну!.. Глядзіце!.. -- Закінуўшы за галаву рукі, доўга папраўляла на галаве хустку, знарок выстаўляючы напаказ выпуклыя грудзі. Падпітыя хлопцы галоднымі вачыма сочаць за яе рухамі. Гэта Бамбіну ўзбуджае. Прыжмурыўшы вочы, хістаючы бёдрамі, нахіляецца ўзад і ўперад. Затым, узяўшы кош з пустымі гаршкамі, выходзіць.

Мне здалося, што перад гэтым вельмі ўважліва паглядзела на мяне і ўсьміхнулася. А можа, я памыліўся? Магчыма, тая ўсьмешка была адрасавана ўсім нам?

Юзік Трафіда меркаваў, што начаваць мы будзем на мяліне Бамбіны і толькі назаўтра ўвечары пойдзем у зваротны шлях. Аднак жыды не даставілі зь Мінска тавар, які мы меліся забраць у Польшчу. Калі пачало зьмяркацца, да нас прыйшоў Лёўка. Заклапочана паціраючы худыя рукі, наракаў:

-- Холерыя іх бяры з такім роботам!.. Яны, мусіць, думаюць, што мы цягніком езьдзім!

Адышоўшы з Трафідам у кут гумна, доўга там напаўголаса размаўлялі. Я пачуў пару Юзікавых выразаў:

-- Мне адзін чорт -- ідзём мы з таварам, ці без... Расплачвайся са мной, і зараз жа! З хлопцамі таксама!.. Я за работай не ганюся... Калі будзеце махляваць, дык пушчу ўсё гэта ў печ, і канец.

На зьмярканьні пачалі рыхтавацца ў дарогу. Лёўка застаўся ў Бамбіны, каб падрыхтаваць тавар для наступнага разу. А мы павінны былі вярнуцца ў Ракаў і праз два дні прыйсьці з чарговай партыяй тавару.

Вырушылі ў зваротны шлях. Ісьці без цяжару было лёгка. Трафіда зь месца пайшоў спорным крокам. Стараючыся ісьці шырока і роўна, я сьлед у сьлед трымаўся за ім.

Паветра было халоднае. Ноч -- выдатная. Раі зорак сьвяціліся на небе. Праз нейкі час, прыстасаваўшыся да размеранага руху, я ўжо крочыў аўтаматычна. Аднастайнае калыханьне цела і пануючая навокал ціш спрыялі засынаньню. Я пачынаў марыць пра розныя рэчы... Усьміхаўся, махаў рукамі. Злавіўшы сябе на гэтым, голасна рассьмяяўся. Трафіда ў хадзе павярнуў да мяне галаву і ціха вымавіў:

-- Штосьці сказаў?

-- Не... Не...

Не даходзячы пяці кіламетраў да граніцы, зрабілі адпачынак. Спыніліся непадалёку густога зарасьніку на беразе малой рачулкі. Паколькі не мелі гарэлкі, дык, асцярожна закурыўшы, ляжалі ў густой траве і адпачывалі.

Трафіда прылёг побач. Пасьля працяглага маўчаньня ён зьвярнуўся да мяне:

-- Ці знаешся на зорах?

-- На зорах?.. -- запытаўся я, зьдзіўлены. -- Не... не разьбіраюся...

-- Шкада. Калі раптам давядзецца даваць драпака, дык павінен ведаць, як выйсьці за граніцу... Бачыш вунь тыя зоркі?

-- Якія?

Юзік пальцам паказаў мне сузор'е Вялікага Воза -- сем больш ых зорачак на паўночнай, бліжэй да захаду, частцы неба, якія ўтваралі нешта накшталт чатырох калёс з дышлем нападзе. Малюючы пальцам па небе і, як мне здавалася, датыкаючыся паасобку да кожнай зь іх, Трафіда дакладна вызначыў зоркі, пра якія хацеў мне сказаць.

-- Так... Бачу... І што?..

-- Калі нас, магчыма, некалі пагоняць і разваляць партыю, дык арыентуйся так, каб гэтыя зоркі былі з правага боку!.. Куды ні пойдзеш, заўсёды выйдзеш на граніцу. Разумееш -- па правай руцэ!

-- Разумею.

Я доўга глядзеў на гэтыя зоркі. Былі прыгожыя. Дзівосна блішчэлі. Пераліваліся рознымі фарбамі. Заўважыў, што яны маюць шмат усялякіх адценьняў. Мяне зацікавіла пэўная думка: навошта гэтыя зоркі так цудоўна падабраныя адна да другой? Можа, узаемна кахаюць сябе, як часамі на зямлі людзі -- і супольна вандруюць па небе. Можа, яны размаўляюць паміж сабой... перамігваюцца?.. Калі ўважлівей прыгледзеўся да гэтых зорак, яны нагадалі мне сваім абрысам -- лебедзя.

Неўзабаве вырушылі далей. Цяпер Трафіда крочыў памалу. Раз-пораз спыняўся і прыслухоўваўся. Тады і мы ўсе затрымліваліся.

Адразу пасьля поўначы выйшлі на граніцу. Трафіда прыпыніўся паміж двума слупамі. Я стаў побач.

-- Гэта пагранічныя слупы, а гэта... граніца... -- ціха сказаў мне Юзік.

Я зь цікавасьцю ўзіраўся на невялікія капцы з чатырохбаковымі слупамі на версе. На іх знаходзіліся дзяржаўныя гербы і нумарныя знакі. На польскім слупе быў знак з намаляваным белым арлом на чырвоным фоне. На савецкім -- адціснутая на жалезнай блясе пяціпраменная зорка зь сярпом і молатам.

З пагранічнай паласы накіраваліся па вузкай мяжы ў напрамку Паморшчыны. У нейкі момант мы зноў спыніліся. Нечакана пачуўся ціхі, здушаны шэпт:

-- Хло-о-п-цы!..

Гэта быў голас Салаўя. Я паглядзеў улева і ўбачыў у цемры нешта белае: яно хутка рухалася перад намі. Гэта не была постаць чалавека, бо было яно занадта малым і мільгацела ў паветры, то падымаючыся ўгару, то апускаючыся ўніз. Гэта была хіба здань.

З моцным тахканьнем у сэрцы я глядзеў на незвычайную зьяву. Пасьля падышоў да Трафіды:

-- Што гэта, Юзік?

-- Халера яго ведае, што гэта? -- адказаў мне сябра. -- Можа, упыр ці д'ябал страшыць?.. Кажуць, што гэта душа капітана... Бааняры таксама баяцца "таго"!

Ужо пазней Юзік расказаў мне такую гісторыю. Адзін рускі капітан, па паходжаньні паляк, падчас рэвалюцыі выехаў з Расіі. Калі бальшавікі ўзялі ўладу ў свае рукі, ён ня змог вярнуцца ў Саветы. Але там засталася дачка і жонка. Вельмі хацеў забраць іх адтуль і з гэтай мэтай прыехаў на пагранічча.

Пасяліўшыся непадалёку ад Выганіч на хутары ў сялян, ён зьвёз туды свае рэчы, паколькі вырашыў заставацца ў іх да таго часу, пакуль не пераправіць з Саветаў сям'ю. Імкнуўся выканаць гэтую задуму з дапамогай мясцовых сялян, бо ўсе астатнія шляхі былі закрытыя.

Сын гаспадара, у якога спыніўся капітан, некалі служыў у рускай арміі і добра ведаў дарогі да Мінска. Ён згадзіўся дапамагчы капітану перавесьці ягоную сям'ю ў Польшчу... Выбраліся ў далёкую дарогу. Трапілі ў Мінск, а потым, затраціўшы багата часу, пасьля шматлікіх прыгод апынуліся ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе некалі капітан пакінуў сям'ю. Так ён даведаўся, што жонка памерла, а дачка Ірына жыве ў былога вартаўніка камяніцы, недзе на прадмесьці. Ледзьве здолелі яе адшукаць і вырушылі ў зваротны шлях.

Калі дабраліся да Масквы, іх таварыш па падарожжы захварэў тыфусам. З вакзала забралі яго ў шпіталь, дзе той неўзабаве памёр. Капітан з дачкой даехалі да Мінска, а пасьля пехатой пайшлі ў Ракаў. Уначы каля Вялікага Сяла заблудзіліся, і недалёка ад граніцы іх пераняў савецкі патруль. Затрымалі. Капітан пачаў абараняцца і, забіўшы двух салдат, кінуўся з дачкой уцякаць. Яго засыпалі кулямі і гналіся за параненым нават на польскай тэрыторыі. Капітан зваліўся ў двухстах кроках за граніцай на нейкі капец, які стаяў там з даўнейшых часоў. Здолеў яшчэ крыкнуць дачцэ: "Уцякай!" і, паміраючы, рэштай сіл і патронаў прыкрыў яе ўцёкі. Бальшавікі забралі труп і перацягнулі яго на свой бок. Дачка капітана зьбегла ад іх, адшукала хутар, на якім жыў бацька перад апошняй вандроўкай у Саветы. Пасялілася ў сялян і зараз жыве там. Яе лічаць кранутай, аднак любяць за дабрыню і працавітасьць. Курган, на якім загінуў капітан, ад таго часу называюць Капітанскай Магілай.

Пасьля гэтага выпадку зводдаль ад капца і на пагранічча пачала зьяўляцца здань. Адзін з салдатаў, бааняр, хацеў яе падстрэліць. Выпаліў з карабіна пяць разоў. Здань зьнікла. А на другі дзень ён падарваўся на гранаце, зь якой забаўляўся ў казарме. Затым яшчэ двое зухаў зрабілі на яе засаду і ўшчалі страляніну. Праз два дні аднаго зь іх хтось застрэліў на граніцы, а другі, цяжка захварэўшы, памёр у шпіталі. Ад таго часу больш ніхто не паляваў на здань, якая зьяўлялася па начах на пагранiччы.

Гэтую гісторыю мне расказаў Юзік пасьля вяртаньня дахаты. Зацікавіла мяне вельмі, бо гучала як байка, а была праўдай: яе потым пацьвердзіла шмат людзей.

Паглядаючы на зьнікаючую здань, мы доўга стаялі ў полі зводдаль ад граніцы.

Захоўваючы асьцярожнасьць, перайшлі насыпаную дарогу, якая вяла да граніцы, а крыху пазьней пакрочылі па дарозе з Паморшчыны ў Ракаў. Затым, берагам Іслачы, паволі накіраваліся да мястэчка.

Недалёка ад млына хлопцы разышліся ў розныя бакі. Я пайшоў зь Юзікам да яго хаты на Слабаду. Не ўваходзячы ў дом, каб нікога ня будзіць, падаліся ў гумно і там пакладіся спаць на сьвежым, духмяным сене.



У Мінску адкрыўся салон-магазін "Берагіня" Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі. Магазін гэты больш падобны на выставу, на якой сабраны лепшыя ўзоры твораў народных майстроў. Можна хадзіць ад вітрыны да вітрыны, ад стэнда да стэнда, любуючыся прыгожымі вырабамі з саломкі і гліны, распіснымі шкатулкамі, тканымі, вязанымі і вышытымі вырабамі. Паколькі дзяржава ніякай падтрымкі народнаму мастацтву пакуль не аказвае, удвая каштоўная дапамога камерцыйнай фірмы "Магма" ў стварэнні салона-магазіна.

Кіраўнікі фірмы і Саюза майстроў пастараліся, каб інтэр'ер салона адпавядаў духу народнай творчасці.

НА ЗДЫМКАХ: у салоне-магазіне "Берагіня"; гэта толькі адна з мноства работ, прапанаваных пакупнікам.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.



ТРАГІКАМІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ РЭДАКТАРА "МИНСКОГО СЛОВА" Густава ШМІДА

# ЛЮСТЭРКАВАЯ СІМЕТРЫЯ

Але цяпер за справу ўзяліся знаўцы юрыдычных тонкасцяў. 20 верасня 1907 года павятовая камісія па справах выбараў у Дзяржаўную Думу абмеркавала заяву памочніка прысяжнага паверанага Віктара Чаусава І ганаровага грамадзяніна Пятра Румянцава аб выключэнні са спісаў выбаршчыкаў па г.Мінску адстаўнога капітана 2-га рангу Густава Шміда "ввиду судимости по обвинению в преступлениях, предусмотренных 257, 115, 114 и 256 ст. Уложения о наказаниях". Да заявы была дадзена выпіска з "Правительственного вестника" за 1891 г., N 173, дзе публікаваўся судовы прыгавор па справе Г. Шміда: "Лишить всех особенных прав и преимуществ, лично и по состоянию ему присвоенных, а также дворянства, чинов и медали в память войны 1877–1878 гг., сослать на житье в Томскую губернию с последствиями по 43, 44, 46 і 47 ст. того же уложения".

Разгледзеўшы гэтыя дакументы, Мінская павятовая камісія па выбарах пастанавіла: "Исключить из списка избирателей 2-го съезда по г. Минску значащегося под N 286 Густава Карловича Шмида, о чем уведомить последнего и сообщить три копии сего постановления г-ну минскому губернатору для распубликования в "Губернских ведомостях".

Г. Шмід, аднак, не здаўся. У той жа дзень, 26 верасня 1907 года, ён паслаў скаргу ў губернскую камісію па выбарах у Дзяржаўную Думу. За адзін дзень, 27-га верасня, дабіўся ўзнаўлення ў правах выбаршчыка (ад гэтага залежала яго дэпутацтва). Губернская камісія абгрунтоўвала сваё рашэнне ажно пяццю "высочайшими повелениями" Мікалая II (29.03. 1896, 30.06.1903, 6.09.1904, 26.10.1906, 9.10.1907 гг.). Апошнім "повелением" Шміду было дадзена права на атрыманне з Галоўнага марскога штаба ўказа пра адстаўку без адзнакі судзімасці.

Газета "Минское слово" і цэлы полк мясцовых вялікадзяржаўнікаў святкавалі перамогу. Але не доўга. В. Чаусаў і П. Румянцаў заўважылі ў рашэнні губернскай камісіі юрыдычныя пытанні і паслалі скаргу ў сенат, які ў якасці судовай інстанцыі павінен быў кіравацца літарай закону.

Ганебная біяграфія Г. Шміда стала вядома сталічнай грамадскасці; газеты "Русь", "Товарищ", "Русское слово" надрукавалі выкрывальныя матэрыялы. Паслядоўнікі мінскага чарнасоценца плакалі на старонках "Минского слова": "На Шмида наводят бинокли, тщательно осматривают его спину, нос, волосы и во всем у него видят грязные (...). Пусть он согрешил. Но грех его не тяжел, иначе Государь Император не повелел бы предать забвению этот грех. Да неужели же согрешивший человек погиб для жизни? Чему же в таком случае научились мы от христианства?". Экс-шпіёну пелі дыфірамбы яго паплечнікі: "Шмид, -- заявілі яны, -- человек большого ума, сильной мысли, громадной энергии, сильной воли, и все свои великие дарования он отдал не "освободительному движению", не еврейскому равноправию, а русскому народу, русской государственности. Западно-Русскому краю и его серому обитателю белорусу..."

Пасля доўгага разбору 25 лютага 1908 года Сенат выдаў указ, у якім хоць і прызнаў, што акрамя судовай рэабілітацыі аднаўленне ў выбарчых правах "может, конечно, последовать в путях Монаршего милосердия, по высочайшему повелению, но не возбуждающему, однако, никакого сомнения в том, что дарованная Монархом милость представляет избирательные права лицу, утратившему по суду права участия в выборах". А калі "высочайшие повеления" 26 кастрычніка 1906 года і 9 кастрычніка 1907 года не могуць лічыцца асновай для аднаўлення Г. Шміда ў гэтых правах, то Сенат адмяніў пастанову Мінскай губернскай камісіі аб аднаўленні Шміда ў выбарчых правах "как неправильное со всеми его последствиями". Дзяржаўная Дума ануліравала дэпутацкі мандат Г. Шміда.

Шмідаўская партыя моцна засмуцілася. Але яе лідэр спрабаваў рабіць добрую міну пры дрэннай гульні. Перадаў правы выдання і рэдагавання газеты сваім памагатым і абвясціў чытачам: "Три года напряженной работы настолько расстроили мое здоровье, что я по совету врачей должен временно воздержаться от умственной работы и всякого волнения. Уезжая для лечения за границу, я с чувством грусти расстаюсь с читателями, которые поддерживали своею симпатиею "Минское слово". Газета будет идти тем же неизменным путем, как и раньше, отстаивая начала русской государственности на окраинах и интересы русского населения".

Да "справы" аб выключэнні Шміда са спісаў выбаршчыкаў прыкладзены экземпляр газеты "Минские губернские ведомости" ад 29 сакавіка 1908 года, у якім апублікавана "выгнанне" лідэра мінскіх чарнасоценцаў. Але яго прыхільнікі праз паўгода выцерлі слёзы. Замест пасаромленага Шміда яны выбралі ў Дзяржаўную Думу ад "рускай курыі" рэктара Мінскай духоўнай семінарыі протаірэя Андрэя Юрашкевіча, паводле рапарта мінскага паліцмайстра, "русского монархиста из крайних правых".

Але праз год з паловаю для мінскіх "истинно русских" зноў настаў час Вялікага Плачу. Густаў Шмід доўга лячыўся. Аднак не вылечыўся ад сваёй закаранелай хваробы -- паталагічнай нянавісці да ўсяго "нярускага", асабліва да славянскіх народаў, якія захацелі ўваскрасення сваёй нацыянальнасці, культуры, дзяржавы. 1 кастрычніка 1909 года Г. Шмід сказаў сваю, здаецца, апошнюю прамову ў Маскве на нейкім "рускім нацыянальным свяце". Гэта былі свайго роду чарнасоценскія прароцтвы і запаветы: "Для успешной борьбы с революцией, -- вучыў масквічоў эксдэпутат ад Мінска, -- необходимо тесное единение всех русских людей на такой основе, которая была бы незыблемой, которая связывала бы народную массу, духовенство и тот остаток интеллигенции, который еще верит в Бога, сознает и любит свою русскую народность и исторически сложившийся идеал русской христианской православной государственности -- Самодержавие и Православие (...) Кадетское народовластие -- значит власть Милюкова и К° над "Державным народом", октябрьское -- Гучкова и К°, а социал-демократическое -- диктатура Хрусталева и на подобного типа из полужидов".

А праз дзён сорак газета "Минское слово" выйшла ў жалобных рамках на ўсіх васьмі старонках. Некралог, падпісаны крыптонімам Д.С. (Д. Скрынчанка, рэдактар газеты) пачынаўся патэтычна: "Плачь, плачь, русский Минск! Твой лучший сын погиб, затравленный беспощадными своими врагами. Господи, воздай им по делам!" І таксама патэтычна канчаўся: "Плачьте, русские люди! Умер великий человек! Умер Шмид!".

Заключны акт гэтай трагікамедыі апісаны ў даносе (10 машынапісных старонак праз паўтара інтэрвала) новага выдаўца і рэдактара "Минского слова", пераемніка Шміда на пасадзе старшыні "Минского отдела Всероссийского национального союза" (партыя расійскіх чарнасоценцаў) Дзмітрыя Скрынчанкі пад назваю "Минский жид и минская администрация", пасланага 9 студзеня 1912 года міністру ўнутраных спраў. Канфлікт паміж Шмідам, а пасля ягоным спадкаемцам на пасадзе рэдактара "Минского слова" і адміністрацыяй губернатара Я. Эрдэлі (пасля адстаўкі Эрдэлі абавязкі мінскага губернатара выконваў віцэ-губернатар С.П. Межакоў-Каютаў) узнік з-за няспынных грубых інсінуацый і бульварнай лаянкі чарнасоценнай газеты ў адносінах да палякаў і яўрэяў. Пры гэтым калі Галоўнае ўпраўленне па справах друку часам раіла губернатару дзейнічаць па закону, то Сталыпін нязменна сімпатызаваў мінскім чарнасоценцам, асабіста ўмешваючыся ў канфлікты. У архіве захаваліся запіскі-аўтографы прэм'ер-міністра і міністра ўнутраных спраў. Вось адна з іх -- А.В. Бельгарду (26.07.1907): "Был у меня Шмид и рассказывал невероятные вещи про требования цензурного характера со стороны смотрителя типографии Губернского правления. Ввиду этого потрудитесь послать Эрдели приложенную телеграмму". Тэкст тэлеграмы -- "ветлівая" вымова: "Обратите внимание на предъявление смотрителем типографии независимо под какие номера требования исключения некоторых статей. Такие требования цензурного характера совершенно незаконны и создают препятствия русскому органу в губернии". Са свайго боку, Бельгард слаў у Мінск загады такого зместу: "По поручению министра благоволите безотлагательно устранить пререкания губернской типографии с редактором "Минского слова", совершенно бесполезно препятствующие выходу этой газеты".

Мінскі губернатар апраўдваўся, спасылаўся на тое, што рэдактар пасылае ў друкарню не макет газеты, а чарнавыя матэрыялы, да таго ж "Минское слово" нацкоўвае адзін народ альбо клас на другі, прыкрываючыся клопатамі пра трыумф праваслаўя. Губернатару прыйшлося накладваць штраф на рэдактараў газеты Шміда і Скрынчанку за парушэнне законаў аб друку. У 1911 годзе канфлікт абвастрыўся пасля таго, як Скрынчанка звольніў з пасады сакратара рэдакцыі Шофэра і той перайшоў да ягоных канкурэнтаў у рэдакцыю газеты "Минские ведомости", якая фактычна была неафіцыйнай часткай "Минских губернских ведомостей". На шматлікія скаргі-даносы Скрынчанкі віцэ-губернатар Межакоў-Каютаў паслаў у Санкт-Пецярбург адказ -- звыш дзесяці машынапісных старонак.

Запіска Д. Скрынчанкі "Минский жид Шофэр и минская администрация" -- своеасаблівая, не элегічная, скарэй злая "споведзь" мінскіх чарнасоценцаў. Вось найбольш экспрэсіўныя фрагменты з гэтага дакумента. "В период инородческой и главным образом еврейской революции 1904–1905 гг. Россия была посрамлена, а русское имя было донельзя унижено. Город Минск, ядро разных бундистов, сионистов и т.п. организаций, конечно, не избежал общерусской участи". (Далей Д. Скрынчанка апісвае гісторыю заснавання газетаў "Минская речь" и "Минское слово" і пераходзіць да "справы Шофэра": "Как в "Минской речи", так и в "Минском слове" секретарем приглашен еврей Шофэр, именовавший себя Марком Карповичем вместо Мордуха Копелевича и рекомендованный редактором "Окраины России" П.Г. Бывалькевичем. Так как Шофэр стоит теперь в фокусе всех минских дел, вертит администрацией и разваливает русское дело, то ему будет уделено исключительное внимание в этой повести о минских делах. Шофэр -- человек без всякого образования; но жиду оно почти не нужно; даже минский извозчик из жидов свободно может стать "президентом" какой угодно республики". (Тут распавядаецца пра гісторыю з караімскай метамарфозай Шофэра і пра яго сяброўства з Бывалькевічам). "Шофэр ловко вел еврейскую линию, дружа с жидами и одурачивая администрацию; он стряпал письма на свое имя, якобы "угрожающие", и губернатор П.Г. Курлов один раз целый месяц охранял Шофэра казаками. Курлова скоро сделали товарищем министра Внутренних Дел, губернатором в Минске назначен был херсонский земец, несомненный кадет Яков Егорович Эрдели. Конечно, "Минское слово" и Шмид вскоре же стали в оппозицию к новому губернатору, указывали его недопустимые в крае промахи; но доверчивый и сам в начале "октябрьствовавший" П.А. Столыпин все же держал Эрдели в Минске". (Далей ідзе гісторыя пра тое, як псеўдарускі Шофэр пасварыўся з "истинно русским" Шмідам, выдаў яго кранштацкі сакрэт "еврейской "Окраине", якая адкрыла "пальбу" па Шміду, і ў беднага Шміда "сердце не выдержало"). "Но главный виновник (смерти) Шмида чувствовал себя прекрасно (...). Шофэр ловко учитывал назначение (трэба: незнание. -- **У.К.**) как старым (Шмидом. -- **У.К.**), так и новым редактором техники газетного дела и, обделывая свои делишки около правой газеты, казался не только необходимым человеком для газеты, но и "милым Марком Карповичем". Шофэра ласкали, баловали, довели его жалование до 140 руб. в месяц, гардеробы его как-то разбухли. Правда, странным казалось, что к нему ходят какие-то подозрительные жидки. Иногда несносным было его командование в газете. Но как обойтись без Шофэра? Чиновник не пойдет, и русский вообще без образования не годится -- или забулдыга, или пьяница и т.д. Почему не годится русский -- хорошо не проверялось, и Шофэром дорожили".

Апісаўшы гісторыю з пераходам Шофэра ў губернатарскую газету "Минские ведомости" ды іншыя эпізоды сваркі "истинно русских", хрышчэнне Шофэра "с нарушением православного обряда", апраўданне яго обер-пракурорам Свяшчэннага Сінода В.К. Саблесам і спагнанне ў адносінах да настаўніка гімназіі Скрынчанкі і мінскага епіскапа Міхаіла, які прызнаў несапраўдным хрышчэнне Шофэра, Скрынчанка закончыў сваю "запіску" скрухай, змяшанай з "надзеяй": "С жидом нельзя бороться, если даже высшая правда на земле -- церковная власть, поместный собор в лице Св. Синода склонился перед происком жида без представления последним каких-либо доказательств (...). Идет несомненный развал русского общества. Но быть не может, чтобы жид и обнаглевшая часть инородцев погубили Русь..."

Да "запіскі" прыкладзены даносы на мінчан, якія "теперь играют роль в Минске и особенно близки губернским сферам". Сярод іх, акрамя ўжо вядомага Шофэра, Д.Д. Бохан -- "бывший офицер и революционер, сидевший 8 месяцев в тюрьме"; "Сторожев, бывший старообрядческий, а потом католический священник, иезуит, безграмотный"; урэшце, "революционер Райский, бывший учитель, проповедующий о необходимости уничтожения Самодержавия, созыва Учредительного собрания и т.д."

Праз пяць месяцаў пасля "запіскі" Д. Скрынчанка абвясціў пра закрыццё сваёй газеты. Апошні нумар яе (15.5.1912) мінскі губернатар арыштаваў за артыкулы "От редактора-издателя" і зварот нейкага "Белорусса" да сваіх чытачоў, у якіх закрыццё газеты тлумачыцца не матэрыяльнымі разлікамі, а ціскам з боку мясцовых уладаў на "истинно русское" выданне, якое абараняла "русские интересы на окраине". Да "справы" прыкладзена выразка з сталічнай газеты "Русское слово", дзе між іншым, паведамляецца: "Минск, перестал существовать черносотенный листок "Минское слово", потерявший субсидии из "темных денег". Основанное исключенным из Гос. Думы покойным депутатом Густавом Шмидом, "М.С." служило сначала октябрятам, затем "союзникам", и, наконец, националистам. Прекращение газеты редактором ее, председателем местного отдела "союза русского народа" Скрынченко связывают со смертью архиепископа Михаила, оказывающего материальную поддержку".

Згубіўшы палітычнага правадыра Шміда ў парламенцкай барацьбе Д. Скрынчанка "па натхненню" напісаў свой элегічны "апакаліпсіс"— брашуру "Трагедия белорусского народа" (1908). Аўтар лье горкія слёзы, бо, паводле ягонай хлусні, палякі прыдумалі беларускую мову і беларускую нацыю, каб перашкодзіць ім вярнуцца ў сваё "исконное" ўлонне -- велікарускі народ.

**Уладзімір КОНАН.**

Заканчэнне. Пачатак у № 29.

*ПАМЯЦІ КРАЯЗНАЎЦА Данілы ВАСІЛЕЎСКАГА*

# "ПАСЫЛАЮ ВАМ КАРТАЧКУ..."

Тата памёр 28 снежня 1963 г. -- 74 гадоў (гэта паводле пасведчання аб смерці ІІІ-яр N 017703). А дзень яго нараджэння мы адзначалі заўсёды ў пярэдадзень Новага года -- 31 снежня. Удакладніць няма дзе. Нарадзіўся ў 1889 г., снежань. Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл., в. Новае Сяло".

Зробім да гэтага месца заўвагу: у даведніку "Наука и научные работники СССР" (1928) указана дата нараджэння члена-супрацоўніка Інбелкульта, намесніка старшыні Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства Данілы Мінавіча Васілеўскага -- 17.ХІІ.89. Відаць, гэта дата старога стылю, па новаму -- 29 снежня. А паводле сямейнай традыцыі гэтая дата, мабыць, аб'ядноўвалася з Новым годам.

Часам дачцэ здавалася, што Даніла Мінавіч "прымацаваны да Поўначы навечна... Ён хадзіў у міліцыю горада штотыдзень (а мы жылі ў пас. Руднік) адзначацца. Ён называў гэта "ходить к батьке", але вельмі цяжка перажываў. Вельмі. Яшчэ ён перажываў "поражение в правах". Мы галасавалі -- мама, бабка і я. Ён -- не. Якія ўжо былі выбары... Але помнячы гора бацькі, што ён быў пазбаўлены права голаса, я ў сваім жыцці ніводных выбараў не прапусціла. І заўжды ўспамінала бацьку (і ўспамінаю)".

"Хочацца мне вам расказаць, -- працягвае Ала Данілаўна, -- яшчэ напаўлегенду (легенду) нашай сям'і, якой тата займаўся. Бабуля (матчына) расказвала, што яе бацька (мой прадзед?) быў "як Сусанін". Ён майстравы віцебскі, хадзіў па вёсках на заробкі. Аднойчы сустрэў атрад палякаў. Хто яны? -- не ведаю. Яны запыталіся дарогу ў горад кудысьці... Дзед указаў балота. Сам пабег у вёску. І мужыкі з сякерамі, віламі -- пайшлі за імі. Аддалі ўладам. Бабка "была на руках у маці", калі палякі раздавалі грошы дзецям. А прадзеду сказалі: "А ты, міленькі, не будзь дурачком, ты за нас вялікія грошы атрымаеш". Потым прыязджаў некалькі разоў ураднік, але прадзед хаваўся ад яго, баяўся. Яго пакінулі ў спакоі. Выпадак быў забыты. Толькі бабка мая (цешча Д.М.) расказвала. Бацька пакапаўся ў архівах. Знайшоў, што -- так, быў такі выпадак на Віцебшчыне. Але імёны іншыя".

Думаецца, што размова тут аб паўстанні 1863 года. Як вядома, народ на Віцебшчыне не падтрымаў паўстанцаў, бачыў у іх "паноў" і "палякаў". Тэма народнай рэакцыі на паўстанне сапраўды цікавіла Васілеўскага. Ён запісваў народныя ўспаміны пра гэтыя падзеі, а ў 1928 годзе надрукаваў у "Полымі" грунтоўны артыкул "Сялянства Віцебскай і Магілёўскай губерань у паўстанні 1863 года", які захоўвае сваё навуковае значэнне дагэтуль.

З таго ж пісьма:

"Арыштавалі бацьку ў 1936 г. Ён атрымаў 5 гадоў турмы і 3 гады паражэння ў правах. "Паехаў" у Котлас. Адтуль пісаўпісаў у БССР. І дабіўся перасуда, відаць, у 1938 г. І свайго "дабіўся" -- 10 гадоў турмы і 5 гадоў паражэння ў правах. Гэта хадзіла анекдотам па Варкуце, што "Васілеўскі выклапатаў сабе замест 5 і 3, 10 і 5".

Але я дык цяпер думаю, што можа быць ён імкнуўся да спаткання з мамай, бо пры апошняй сустрэчы, на перасудзе, ён ёй сказаў: "Калі я даведаюся, што цябе ў мяне няма, мне жыццё не патрэбнае". "Пра гэта не думай", -- быў адказ мамы. Гэта яго трымала -- сям'я -- заўсёды, да апошняга. На прыкладзе нашай сям'і (і такіх, як мы, у Варкуце) -- можна бачыць, што за крэпасць у жыцці людскім -- сям'я!"

"Дзякуй, што жывы мой бацька ў кнізе Вашай. Што яго любоў да Беларусі жывая. Бадай, гэта важней нават.

Менавіта гэтага ён хацеў. Марыў аб квітнеючай Беларусі. І ведаў яе. А Вы гэта паказалі. Як жа мне дарагія словы, што бацька мой "плённа працаваў", "ведаў"... Я ж 13-летняя сустрэлася з хворым, змардаваным чалавекам. А гавораць, што "на скрыпачцы граў", "мазурку хораша танчыў", лекцыі чытаў ярка, ведаў шмат і глыбока. Я гэтага сабе нават уявіць не магла. Толькі па расказах".

Між іншым, з нядаўняй публікацыі маладога даследчыка, аднафамільца героя нашага нарыса, Юркі Васілеўскага ("ЛіМ", 10.9.1993) відаць, што перагляд справы Данілы Мінавіча і групы педагогаў (у асноўным магілёўскіх) у 1938 годзе ў бок узмацнення пакарання быў заініцыіраваны намеснікам старшыні Вярхоўнага Суда СССР, сумна-вядомым у гісторыі сталінскіх рэпрэсій В.Ульрыхам. Розныя крыніцы -- архіўныя матэрыялы і сямейныя ўспаміны -- сутыкаюцца, узаемадапаўняюцца.

У новым пісьме Ала Данілаўна якраз выказвала здзіўленне, што на яе радзіме, на долю якой выпала столькі выпрабаванняў, захаваліся архівы, жывая памяць -- "па Беларусі прайшлі два такія смерчы -- 1937 і Вайна".

"Тата ўсё ўспамінаў сваю велізарную бібліятэку, якая згарэла падчас вайны. Прычым з жартам бацькі ўспаміналі, як самыя дарагія кнігі ім падпісваліся: "Маёй дарагой жонцы". "Як пасля гэтага лаяцца, што ідуць грошы"...

У бацькі не было "знешняга бляску" -- так ён і сам гаварыў. Маці яго ўсё да гальштука прывучала, а ён любіў беларускія касавароткі вышываныя. Адна доўга жыла, нават не сшытая, нядаўна я яе падарыла. А так у кусках з 1936 года яна з намі ездзіла: Магілёў--Віцебск--эвакуацыя падчас вайны ў Арэнбуржа -- вяртанне ў Оршу (смалянскім дзіцячым домам маці загадвала 1 год -- 1944--45) -- Варкута -- Феадосія, а з 1964 года Масква. Да людзей бацька ставіўся паважліва, да ўсіх на Вы. Першае маё знаёмства з бацькам -- да нас у барачны наш малы пакойчык, дзе былі "дзве маснічынкі" пасярэдзіне, так што мы ўставалі па чарзе -- я ў школу, потым бацькі на працу, а потым баба, -- прыйшлі госці. Буравыя майстры таты. Прыгажуны-асілкі ў татуіроўках, у добрых касцюмах, яны адчувалі сябе няўтульна, больш маўчалі... Калі яны пайшлі, я запыталася: "Тата, гэта бандыты?" Мой бацька, які "мухі не пакрыўдзіць" (паводле агульнага меркавання) хлопнуў кулаком па стале і крыкнуў: "Гэта Васіль Васільевіч Туркоў. Буравы майстар Варкуцінскай партыі. І лепшы буравы майстар. Гэта ўсё, што трэба табе пра яго ведаць". Гэта я запомніла на ўсё жыццё.

Тату "падкаблучнікам" звалі. Ён смяяўся -- "мне пад такім абцасікам утульна". А маці дадавала -- "ды ён пад абцасікам толькі ў другарадных пытаннях. А ў прынцыповых яго не аб'едзеш". Так, ён умеў быць дыпламатам. Гаварыў тое, што думаў. Або маўчаў. Смяяўся толькі з блізкімі, у сям'і, а так маўчок і кніжка.

Прыяцеляў яго -- семінарыстаў -- бачыла ў Беларусі, калі да 1953 г. прыязджала ўзнаўляць рабочы стаж бацькі. Запомнілася мне, што сустракалі мяне вельмі спешна, не ў сем'ях, мала што добрага я чула пра бацьку -- нічога не запомнілася. Давалі мне паперку прасімую, што сведчыць аб працы бацькі там-та і там-та, у такія-та гады...

Бацьку я "в лицах" расказвала аб сваіх уварваннях да ягоных сяброў:

-- З вамі гаворыць А.Д. Васілеўская.

-- Хіба такая існуе?



-- Так. І хоча вас бачыць (неразумная ўсё ж была. Дабівалася. Не разумела. Нечага шукала).

Тата смяяўся з гарчынкай, уяўляючы сваіх сяброў падчас гэтай сустрэчы з невядомай ім АДВ, але падобнай на ДМ, нездарма бацька заўсёды гаварыў: "Мая дачка, нікуды не дзенешся".

Так што бачыце, якое дарагое мне Ваша сведчанне пра бацьку. Гэта ўсё, што ад яго асталося ў жыцці. Не мала! Дзякуй за гэта!

Многія ж людзі проста ператварыліся ў "лагерны пыл".

Пазней зноў пра бацькаў кнігазбор і архіў. Ізноў цікавыя, нярэдка надзвычай балючыя старонкі сямейнай адысеі, "сямейнага рамана".

"Так, бібліятэка ў Віцебску была велізарная, кнігі ляжалі на гарышчы і рукапісы ў сундуках, таму што наша палавіна бабульчынага дома таксама была ўся ў кнігах... У Віцебску вобыску не было. Тату ж арыштавалі ў Магілёве. Там бацькі (і я маленькая 0--4-х гадоў?) жылі некалькі гадоў, тата працаваў у інстытуце, маці загадвала педкабінетам інстытута і вучылася сама ў педінстытуце. Я нарадзілася, калі яна была студэнткай -- 37-гадовай. Да мяне дзве дочкі памерлі. Прычым Вольга 8 гадоў ад менінгіта, і тата лаяў сябе ўсё жыццё, што "вінаваты -- займаўся з ёй многа", так што са мной вырашыў не займацца. Але ўсё ж у 2--3 гады я знала на карце, дзе "Балтыцкае мора", чым тата вельмі ганарыўся... Калі я ехала з Варкуты вучыцца 18 гадоў, тата запрапанаваў:

-- Адмоўся ад мяне, табе будзе цяжка.

-- Не. Калі я нечага вартая, праб'юся сама... А калі ўжо гнаць будуць, няхай гоняць з Масквы -- не так крыўдна.

Да іх я ездзіла на канікулы двойчы ў год, а пісала штодзень ім. Яны былі ў курсе ўсяго. Радаваўся ён, што ў навуку мяне цягне. І сапраўды -- навука ўсё жыццё хобі была. Ужо без таты ў 1973 г. я абаранілася, папрацаваўшы 10 гадоў над дысертацыяй, дзеля душы. І цяпер усё жыццё вучуся нечаму".

І зноў: "Бібліятэка татава згарэла ў Віцебску. Ён жа прыйшоў у дом цешчы ў Віцебск. Адчуваў цяжар, хацеў самастойнасці, ад'язджаў (Орша, Магілёў), але там жылі на прыватных кватэрах спачатку, так што базай аставаўся Віцебск".

Не мной заўважана: апрача прамых каласальных стратаў (гібель бязвінных людзей, часта самых даравітых, бессэнсоўная страта здароўя тымі, хто прайшоў праз пекла ГУЛАГаў, страта незлічоных духоўных каштоўнасцей, унікальных архіваў, рукапісаў) сталінскія беззаконні сеялі ў грамадстве бацылы недаверу і адчужанасці. Нават самая простая культурная беларуская праца былому вязню і яго блізкім магла здавацца небяспечнай. Можа не зусім з майго боку далікатна я пацікавіўся, чаму Даніла Мінавіч звярнуўся па бібліяграфічную даведку пра свае публікацыі 20-х гадоў у Маскву, а не ў Мінск. Ці не было на Беларусь крыўды?

"Чаму -- у Маскву? Можа быць, думаў, што вайна змяла на радзіме ўсе сляды, а ў Маскве хоць штосьці захавалася?.." -- мяркуе Ала Данілаўна і пераканана працягвае:

"Наступныя адносіны да Беларусі ў майго бацькі -- гарачая любоў. Ніякай крыўды і заваду не было. Ехаць на Беларусь! Працаваць! На ўсю моц! Зрабіць тое, што не зрабіў... Дзе спыніўся!

Шалёная прага -- на Беларусь, Беларусь, Беларусь...

Нас палохала гэтая страсць (так, гэта на страсць было падобна) пасля рэабілітацыі 1956 г. Бацька трызніў Беларуссю і сваёй кафедрай. Ніякіх угавораў не слухаў. І хварэў моцна ў той час, але ў яго не было разумення свайго стану (я яго ў псіхіятрыю ўлажыла ў 1956 г.). Мы з мамай спрабавалі абразуміць яго. "Якая кафедра? Жыццё за 20 гадоў пайшло наперад" і г.д. Два гады біліся. Нарэшце, я маме сказала: калі не ўдасца ўгаварыць бацьку, у мяне ёсць козыр, які не хацелася б мне пускаць у ход. Але прыйдзецца, калі будзе доўжыцца гэтая страсць. Якая кафедра?! Куды ён паедзе?! Хворы, бездапаможны, без разумення, а то і ў крызах падае непрытомным (гэта Вы бачыце ў яго там, дзе мы ўтраіх). Ён жа зазнае нясцерпнае эмацыянальнае напружанне. Вядома, на Беларусі мы атрымаем кватэру (што ой як немалаважна!), я змагу працаваць і вучыцца, але бацька... І мне давялося выкласці свой астатні козыр. Мяняла пашпарт у той час і на пытанне аб нацыянальнасці напісала -- руская. Прыйшла да бацькі: "Глядзі, вось мой пашпарт, маскоўскі, выдадзены на падставе маскоўскага. Я руская. На Беларусь не паеду... таму што яна зламала жыццё наша, тваё асабліва".

Узяў у рукі мой пашпарт. Паглядзеў. Панік. Памаўчаўшы, сказаў: "Беларусь не вінавата. Ты ж бачыш, што ў Варкуце былі ўсе -- і грузіны, і кітайцы..." Мне здаецца, што ён разумеў мяне. А я ўсё жыццё потым адчувала сябе як бы здрадніцай, таму прасіла дараваць, і адсюль яшчэ мой сантымент..."

"Не было ніякай крыўды. Быў боль. Была цяга будаваць жыццё на радзіме. Часта ў нас пабеларуску гучала: "дзе воўк радзіўся, той і куст яму міл".

Думаецца, што старонкі сямейнай хронікі Данілы Мінавіча Васілеўскага, з вялікай шчырасцю данесеныя да нас яго дачкой, маюць не толькі чыста біяграфічны, але і больш шырокі грамадскі інтарэс. Лёс аднаго з энтузіястаў-пачынальнікаў нашага краязнаўства і яго сям'і -- часцінка агульнай драматычнай гісторыі Беларусі, беларускага народа.

Сёння Беларусь аддае свайму вернаму таленавітаму сыну заслужаную даніну пашаны і памяці. Спецыяльныя артыкулы пра Васілеўскага ёсць у апошніх салідных энцыклапедычных выданнях -- біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" (т. 1, 1992), "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (т. 2, 1994). У рэгіянальным гісторыка-краязнаўчым зборніку-часопісе "Магілёўская даўніна" (1993) з'явіўся параўнальна невялікі па памерах, але надзвычай ёмісты артыкул ужо згаданага Юркі Васілеўскага "Даніла Васілеўскі -- выбітны даследчык Усходняе Беларусі". Там прыведзены датковыя звесткі аб цкаванні Данілы Мінавіча ў прэсе 1929--1931 гадоў. Як аказалася, ужо 18 жніўня 1929 года ў артыкуле "Патрэбна рашучая рэарганізацыя" "Звязда" рэзка выступіла супраць часопіса "Полымя" і, у прыватнасці, супраць артыкула Васілеўскага пра Вярыгу-Дарэўскага. Нехта Я.Чалядзінскі абвінаваціў Васілеўскага ў тым, што ён нібыта "варочаецца да гістарычнага ўгрунтавання "вялікасці беларускай нацыі", крычыць аб яе праве на самастойнае дзяржаўнае нацыянал-дэмакратычнае вызначэньне. Наогул творы Васілеўскага яра нацыянал-дэмакратычны. Ім узьнята пытаньне аб стварэньні чарговага нацыянальнага героя ў папярэднікі Кастрычнікавай рэвалюцыі, героя, патрэбнага для беларускага нацыянал-дэмакратызму. Заходніцкія тэорыі ў гісторыі, размова аб межах 1772 г. могуць служыць на карысць толькі Пілсудскаму". Бязглуздасць, надуманасць гэтых абвінавачванняў сёння відавочная. Магчыма, выступленне Я.Чалядзінскага і называў Даніла Мінавіч у звароце ў маскоўскую Кніжную палату "рэцэнзіяй" на свой артыкул. Пазней, як даведваемся з той самай публікацыі ў "Магілёўскай даўніне", выдатны краязнавец абвінавачваўся ў абароне Усевалада Ігнатоўскага, Аркадзя Смоліча, аўтара цудоўнай, нядаўна перавыдадзенай "Геаграфіі Беларусі". Усё гэта цяпер самыя шанаваныя ў нас імёны, як і імя самога Данілы Васілеўскага.

Здымкі Данілы Мінавіча да апошняга часу нашай грамадскасці былі, можна сказаць, невядомыя, прынамсі навідавоку іх не было. Слоўнік "Беларускія пісьменнікі" насуперак сваім правілам увогуле не змясціў яго фота -- не змаглі нічога знайсці. У "Магілёўскай даўніне" змешчаны турэмны здымак з яшчэ нядаўна звышсакрэтных архіваў адпаведных органаў. З прысланых Алай Данілаўнай і перададзеных ёю праз сваякоў фатаграфій друкуем чатыры, якія складаюць пэўны выяўленчы шэраг, нібы своеасаблівы тэтрапціх. Першы здымак -- адзінае ўцалелае маладое фота Данілы Мінавіча. У сям'і лічылася, што ён тут -- "семінарыст". Але, магчыма, здымак крыху пазнейшы. На Даніле Мінавічы нейкі адмысловы фрэнч з вялікімі накладнымі кішэнямі на грудзях і буйнымі гузікамі. (Фрэнч з такімі кішэнямі, але іншага пакрою, насіў у 20-я гады Купала. Відаць, мода была такая). На адвароце здымка пазначана фірма: Foto Bayer. Здымак пашкоджаны (таксама, мабыць, сляды трывог і напасцяў нашай неспакойнай эпохі). Яго рэпрадукцыю, як і іншых здымкаў, зрабіў Віталь Савіч. Астатнія здымкі датуюцца: у тундры з кніжкай -- Варкута, 1945 год; з дачкой -- Варкута, 1947--48 гады; з жонкай і дачкой -- Феадосія, 1957--58 гады.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: Даніла ВАСІЛЕЎСКІ з жонкай і дачкой.**

**Заканчэнне**
**Пачатак у №№ 27,28,29.**

## "МАГУТНЫ БОЖА" — ТРЭЦІ РАЗ

# ЗАКЛІКАЮЧЫ ДА АЧЫШЧЭННЯ СЭРЦАЎ




На адкрыцці III Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі зноў гучаў гімн-малітва кампазітара Міколы Равенскага "Магутны Божа". І сапраўды, Бог дапамагае жыць гэтаму фестывалю, нягледзячы на цяжкасці, якія даводзіцца перамагаць аргкамітэту і ўсім, хто сваёй шчырай дапамогай не дае згаснуць вялікай падзеі. І як заўсёды, цэнтрам свята быў касцёл Св. Станіслава ў Магілёве, а душой -- ксёндз-дэкан Уладзіслаў Блін.

У касцёле Св. Станіслава адбываліся конкурсныя канцэрты, у якіх прымалі ўдзел шматлікія харавыя калектывы, ансамблі, гучала вакальная і арганная музыка, а пад адкрытым небам на пляцоўцы каля касцёла адбываліся канцэрты, дзе гучалі галасы з розных краін, гарэў касцёр сяброўства. Трэба было бачыць радасныя твары моладзі і людзей больш сталага ўзросту! Усіх іх яднала любоў да Бога, да музыкі. На конкурсных канцэртах працавала журы пад старшынствам прафесара В. Роўды, якое складалася з вядомых беларускіх музыкантаў -- Г. Каржанеўскай, Л. Каспорскай, В. Скорабагатава, нашага англійскага госця Гая дэ Пікарда, дырыжора камернага хору з Польшчы Матэвуша Сібільскага і сакратара журы Ж. Ялхімавай.

Вельмі хваляваліся артысты, выходзячы на сцэну. Але пры падвядзенні вынікаў і размеркаванні месцаў пакрыўджаных не было. Адметным на заключным канцэрце было тое, што на ім прагучалі два прэм'ерныя літургічныя творы сучасных беларускіх кампазітараў Алега Залётнева і Сяргея Більцюкова ў выкананні цудоўнага камернага хору з Мінска пад кіраўніцтвам Аляксея Шута. Гэтыя творы прагучалі ў поўнай цішыні, пасля якой дружнымі і доўгімі апладысментамі публіка дзякавала нашым кампазітарам за цудоўны падарунак.

Шмат цудоўных харавых калектываў прымалі ўдзел у конкурсным канцэрце, сярод якіх можна адзначыць хор з Галандыі "Голас малітвы". Артыстаў гэтага хору прытулілі ў сваіх сем'ях жыхары Магілёва і вельмі сардэчна апякалі. Сярод выканаўцаў-вакалістаў асабліва хацелася б адзначыць амерыканскую спявачку Салі Крэйс, якая мела вялікі поспех слухачоў, асабліва сярод моладзі. У яе рэпертуары гучала сучасная хрысціянская музыка і некаторыя класічныя творы. У нашай гутарцы яна адзначыла, што выкананне хрысціянскай музыкі -- гэта своеасаблівае пакланенне Богу. Гэта вялікае шчасце, гаворыць Салі, што на гэтым фестывалі гучыць духоўная музыка і ўдзельнічаюць у ім людзі розных нацыянальнасцяў з розных краін свету, заклікаючы да ачышчэння сэрцаў, да дабрыні.

Такім чынам, адзін калектыў змяняў другі, усе такія розныя па сваім ўзроўню, нацыянальнаму каларыту, характару. Усе сем дзён былі напоўнены гукамі розных мелодый, якія прывезлі з сабой тысячы ўдзельнікаў і госці з Расіі, Балгарыі, ЗША, Галандыі, Польшчы, Грузіі, Камеруна, Германіі, Англіі, Літвы.

Па традыцыі на адкрыцці свята духоўнай музыкі выступалі лаўрэаты мінулагодняга фестывалю.

А на заключным канцэрце выступалі новыя лаўрэаты. Гэта спявачка-салістка Львоўскай філармоніі Ларыса Дарэнская, ансамбль "Sanctus" (Польшча), парафіяльны хор касцёла Св. Станіслава, дзіцячы парафіяльны царкоўны хор з Гомеля, галіцкі хор "Еўнаш". Дыпламантамі сталі хор з Балгарыі, жаночы хор з Саратава, дзіцячы хор "Пяючыя ластаўкі" з Санкт-Пецярбурга, хор Магілёўскага педінстытута, госці з Камеруна. Прызёры -- спявачка з ЗША Салі Крэйс, салістка Мінскай філармоніі Т. Цыбульская, харавы ансамбль Нежынскага педінстытута, хор з Галандыі і іншыя.

На прэс-канферэнцыі было выказана шмат добрых слоў таму новаму, што з'явілася на гэтым фестывалі, і было многа цікавых прапаноў з боку прэсы па паляпшэнню наступнага, чацвёртага. Фестываль духоўнай музыкі будзе жыць.

**Вольга АЛЯКСЕЕНКА-РАВЕНСКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае беларускі харавы калектыў "Бялыніца"; амерыканская спявачка Салі КРЭЙС; вогнішча дружбы.**





## З МАСКВЫ ГЛЕДЗЯЧЫ

На сходзе беларусаведаў Масквы абмеркаваны нядаўна вынікі II Міжнароднага кангрэсу беларусістаў. З задавальненнем зазначалася пашырэнне абсягаў беларусазнаўчае навукі. На прамінулым кангрэсе, акрамя традыцыйных краін-удзельніц (Расія, Украіна, Польшча, Нямеччына, Аўстрыя, Вялікабрытанія, Літва, Латвія, ЗША і інш.), упершыню былі прадстаўлены навукоўцы з Фінляндыі, Індыі, Японіі. Даволі разнастайным па тэматыцы аказалася прадстаўніцтва ўласна Беларусі. Словам, ідэнтыфікацыя Беларусі і беларушчыны з навуковага гледзішча стаецца фактам штораз відавочным і прэзентацыйным і ў нацыянальным, і ў сусветным вымярэннях.

Асобна падчас дыскусіі абмеркаваны Зварот Кангрэсу ў справе маючых адбыцца 90-х угодкаў М. Улашчыка (1.02.1906 -- 16.11.1986). Дамоўлена правесці ў Маскве (студзень 1996 года) Улашчыкавы чытанні па тэме: "Літва -- Заходняя Русь -- Беларусь. Праблемы нацыянальнай самасвядомасці ў беларускай гістарыяграфіі і культуралогіі". Жадаючыя далучыцца да плануемай сустрэчы могуць падаваць заяўкі ў Аргкамітэт **[103055, Москва. Угловой пер. 4, кв. 86]**. Запрашаем!

**К. АРТАШЭЎСКІ.**

Масква.

**НАТАТКІ НАТУРАЛІСТА**

## ГРЫБНЫЯ ДАЖДЖЫ

У прыродзе склалася так, што жнівень сустракаецца з восенню. Меншымі становяцца дні, а ночы прыбаўляюць у часе. Няма ўжо таго цёплага надвор'я. Нізіны і вадаёмы раніцай хавае туман. Але жнівень па-свойму багаты. З поля да складоў патокам ідзе збожжа. У садах сокам наліваюцца яблыкі і грушы. Агарод таксама шчодры на ўраджай. "Цёплыя кароткія дажджы спрыяюць росту грыбоў, ад чаго яны атрымалі такую паэтычную назву -- грыбныя дажджы.

Ні адзін месяц так не багаты грыбамі, як жнівень. Быццам у дружным карагодзе "рассыпаліся" сярод зялёнага ці сівога моху жоўценькія лісічкі. А на ўскрайку лесу чакае грыбніка чародка светленькіх маладзенькіх казлякоў. Шмат з імі работы, але затое страва смачная. Пройдзеш у змешаны лес і сустрэнешся з сыраежкамі. Адны ўжо набылі форму талерачак, а іншыя толькі што нарадзіліся на свет, цягнуцца да сонца вузкай шапачкай. Грыбы гэтыя маюць таксама свой смак і каштоўнасць.

Грыбніка-аматара вабяць як малады сасоннік, так і бор. Тут, быццам суседзі, растуць махавікі. Яны розныя па велічыні. Заўважыш дарослага, то прыглядайся, абавязкова будуць маленькія яшчэ, як гузічкі. Збіраць махавікі -- адна асалода. Кошык напоўніш за зусім кароткі час.

Асабліва вабіць лес, калі ідзе ў рост кароль "грыбнога царства" белы грыб-баравік. Тады чуткі перадаюцца ад аднаго грыбніка-аматара да другога. І ўсе пра шчаслівую знаходку расказваюць з захапленнем, з гонарам. А дадому ідуць так, каб на паверхні былі толькі баравікі. Не дзіўна -- тавар і трэба паказваць тварам.

Сустрэча з баравіком, які надзеў на бок цёмна-рудую шапачку, прыдае нейкую душэўную радасць, падымае настрой. І калі пашчасціла знайсці караля грыбоў, не спяшайцеся пакідаць гэтае месца, бо па аднаму ён не расце. Трэба пахадзіць, уважліва агледзець квітнеючы верас, прылягаючыя кусты і напэўна знойдзецца некалькі баравічкоў.

Важна ведаць і правілы збору грыбоў. Іх трэба зразаць вострым нажом, а не вырываць, каб не пашкодзіць грыбніцу. Гэта дасць магчымасць збіраць іх добры ўраджай у будучыні.

У час збору трэба ўмець адрозніваць звычайныя грыбы ад ядавітых. Найбольш небяспечная -- бледная паганка. Гэта -- пласцінчаты грыб, мае высокую ножку з абадком, шапачка блакітнага колеру. Ядавітымі з'ўляюцца мухаморы, апенькі-паганкі, якія адрозніваюцца ад звычайных ярка-жоўтым колерам пласцінак ніжняй часткі шапачкі. Не бярыце грыбоў, карэнні якіх хутка сінеюць.

Неабходна памятаць, што і звычайныя грыбы могуць выклікаць атручванне, калі недастаткова правараны, або прасмажаны. Калі ж іх старанна апрацаваць тэрмічным спосабам, то на стале будзе смачная страва.

Грыбная пара працягваецца да глыбокай восені. На змену баравікам і падасінавікам прыходзяць зялёнкі і ваўнянкі, больш інтэнсіўна растуць апенькі, што аж да першых маразоў радуюць вока грыбніка.

**Вячаслаў СТОМА.**

## "СВІЦЯЗЬ-95"

На возеры Свіцязь адбыўся першы міжнародны фотапленэр "Свіцязь-95", у якім прынялі ўдзел майстры з Гродна, Мінска і польскіх гарадоў Беластока і Супраслі. Чатыры дні абменьваліся яны вопытам работы, дэманстравалі свае дасягненні ў галіне фотамастацтва, рабілі кадры ў жывапісных наваколлях Свіцязі і ў Навагрудку. На імправізаваных выстаўках удзельнікі пленэра пазнаёміліся з работамі мінчан Уладзіміра Няхайчыка і Віктара Жураўскага і польскіх калег Хенрыка Рагадзінскага і Віктара Волкава. Па выніках работы фотапленэра "Свіцязь-95" будзе створана выстаўка работ для паказу ў Польшчы і Беларусі.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 2969. Падпісана да друку 7. 8.1995 г.